# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 12 (473) | ГОД X | 21 САКАВІКА 1965 г. | ЦАНА 60 гр.

# З УСІМ НАРОДАМ

## МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ — СТАРШЫНЯ ГП БГКТ

У нашай краіне пачалася ўжо выбарчая кампанія. Будзем выбіраць у Сейм і рады нарадовыя найлепшых сваіх прадстаўнікоў — кандыдатаў Фронту адзінства народу з членаў ПАРП, ЗСЛь, СД і беспартыйных грамадскіх дзеячоў. Сярод іх, так як і ў мінулыя выбары, шмат будзе беларусаў, шмат будзе членаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. І вось таму надышла зноў аказія нашым актывістам БГКТ, якія павінны ўключыцца ў працу ў камітэтах ФАН, рабіць карысную прапагандовую работу. Неабходна зноў і зноў успамінаць даваеннае дваццацігоддзе, калі беларус не меў роўных правоў, калі існавала нацыянальная дыскрымінацыя. Той перыяд трэба параўноўваць з дваццацігадовым перыядам народнай улады, калі беларус стаў паўнапраўным гаспадаром сваёй краіны, калі нароўні з палякамі мае гарантаваныя правы поўнага старту да навукі і працы, калі мае ўсе магчымасці вывучаць родную мову, развіваць сваю культуру і мець сваю арганізацыю, а таксама кандыдаваць у органы народнай улады.

Параўноўванне і супроцьпастаўленне двух дваццацігоддзяў і азнаямленне з велізарнымі стратамі, якія былі нанесены Польшчы ў час вайны — усё гэта дазволіць лепш усвядоміць вялікія тэмпы развіцця нашай краіны.

А ўспамінаць і гаварыць аб гэтым неабходна нам, членам БГКТ, не таму, каб хваліцца дасягненнямі, а таму, каб з іх чэрпаць сілы для новых нялёгкіх задач, якія накрэслены наступнай пяцігодкай. І хаця рэалізацыя новага плана пачнецца ў 1966 годзе, да яго ўжо трэба быць падрыхтаваным абс зараз падрыхтоўвацца ўсім прадпрыемствам і ўстановам, жыхарам вёсак і гарадоў. Такое менавіта заданне пастаўлена перад усім нашым народам, перад працоўнымі людзьмі ўсіх нацыянальнасцей. Рэалізацыя гэтых заданняў будзе залежыць ад актыўнасці і ўдзелу ўсіх працоўных Польшчы.

А гэтая актыўнасць будзе яшчэ большая, калі згодна з імкненнямі партыі ўсё мацней і мацней будзе ўмацоўвацца адзінства народу, калі яшчэ з большай энергіяй усе мы супольна будзем пераадольваць цяжкасці і супольна іх ліквідаваць.

Патрэбу павелічэння багацця і магутнасці нашай краіны разумее і даацэньвае ўсё грамадства, у тым ліку і беларускае насельніцтва. Доказам гэтага з'яўляецца актыўны ўдзел у грамадскіх чынах сялян Гайнаўскага, Бельскага, Сямяціцкага, Беластоцкага, Сакольскага і Дуброўскага паветаў, у якіх пражывае вялікая колькасць беларусаў.

Няма сумнення ў тым, што наш народ сустрэне дзень выбараў новымі працоўнымі подзвігамі, на якія між іншым павінны мабілізаваць і нашыя актывісты БГКТ.

Такім чынам устаюць новыя заданні перад Беларускім таварыствам, якое мае таксама шмат сродкаў выхаваўчага ўздзеяння на насельніцтва. Да іх перш за ўсё трэба залічыць друкаванае слова штотыднёвіка «Ніва», канцэрты эстрады ГП «Лявоніха», мастацкія выступленні самадзейнікаў, гутаркі праз радыёвузлы і даклады лектараў, арганізацыйна-прапагандовая праца аддзелаў, гуртоў і ўсіх членаў БГКТ.

Справа ў тым, каб нашае таварыства яшчэ лепш выконвала сваю культурна-асветную працу, каб узрасталі яго ранг і аўтарытэт, каб як найлепш дапамагло яно партыі ў выбарчай кампаніі. Як гэта зрабіць,

(Працяг на стар. 2)



Новая Гайнаўка, дамы на вуліцы Вызвалення. Фота: В. Рудчык

# КНІЖКА КАЖА ПРАЎДУ

У апошні час выйшла з друку новая кніга Аляксандра Амільяновіча «Лісты з-пад гільяціны». Гэта дакумент — лісты і здымкі ўдзельнікаў руху супраціўлення на Сувальшчыне, якія былі арыштаваны і замардаваны на гільяціне гітлераўцамі ў турме ў Кенігсбергу. Лісты пісаныя перад самай смерцю вязняў.

Самога А. Амільяновіча чытачу «Нівы» прадстаўляць не трэба. Як кажа сам аўтар «я ў «Ніве» пачаў свой пісьменніцкі старт». Лічым, што для чытача будзе цікавай размова з вядомым ужо пісьменнікам аб яго працы і дасягненнях. Таму і звярнуліся мы з нашымі пытаннямі да **Аляксандра АМІЛЬЯНОВІЧА.**

— Ваша апошняя кніга якая па чарзе?

— Пятая.

— Каб прыпомніць, пералічыце ўсе.

— «Агент Карл 32», «Над Чорнай Ганчай», «Прысуд», «Праваднік па месцах барацьбы і мук», «Лісты з-пад гільяціны»

— Ці гэта адзіныя вашы публікацыі?

— Зборныя выданні Гістарычнага вайсковага інстытута у якіх друкаваліся мае апавяданні на польскай і рускай мовах. Былі гэта апавяданні аб Язэпе Храноўскім з партызанскага атрада Суворава і Рыгору Саевічу з атрада Дзяржынскага. Друкаваўся таксама ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы і ў «Гродзенскай праўдзе». Перадрукі былі ў прагрэсіўным паланійным друку амерыканскім і англійскім.

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

— Ведаю, што вы нават ездзілі ў Англію.

— У 1962 годзе польская дэлегацыя была запрошана міжнай антыфашысцкай фундацыяй пані Рыдэр - Чэшырэ. Удзел прынялі людзі, якія змагаліся з фашызмам і якія прадаўжаюць такую дзейнасць дагэтуль.

— А як вы пачалі сваю антыфашысцкую дзейнасць і дзе?

— На Беласточчыне, маючы 17 год. Я быў членам падполля ў Сувалках.

— Значыць, героі з апошняй кніжкі вашы сябры па падполлі?

— Так. З імі працаваў. Мы выдавалі падпольную газету «Народнае адраджэнне», з якой я супрацоўнічаў. У 41 годзе я быў арыштаваны і 4 гады праваладыўся па турмах і канцлагерах. Уцёк са Штрахгута каля Магдэнбурга проста на І Беларускі фронт. Прымаў удзел у апошняй фазе вайны.

— Вы сваю першую кнігу выдалі ў якім годзе?

— 1959. У 1962 мяне прынялі ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў.

— Чаго новага можна спадзявацца ў бліжэйшы час?

— У друку знаходзіцца кніга-альбом гітлераўскіх злачынстваў на Беласточчыне. У ёй паўтысячы дакументаў і здымкаў. Першая частка «У ценю свастыкі» — расказвае аб злачынствах у час акупацыі, другая «За супольную справу», паказвае барацьбу з фашызмам, якую вялі савецкія партызаны, «АК» і рух супраціўлення. Выйдзе з друку ў сакавіку. Другая кніжка — аповесць «Крыптанім Тайнае». Прысвечана Івану Вырве, папулярнаму «Сібіраку», які змагаўся ў беларускім падполлі ў мясцовасцях Коматаўцы і Баброўнікі, а потым у Беластоку. З друку яна выйдзе ў чэрвені. У «Людовай спулдзельні выдавецкай» ёсць зборнік апавяданняў «Барыкада» з часоў вайны, вызвалення і першых год пасля вайны. Акцыя апавяданняў паветы: Бельскі (той ранейшы), Аўгустоўскі, Граеўскі.

— А над чым новым працуеце?

— Над адной аповесцю і дзвюма дакументальнымі кнігамі. Аповесць на рабоча наз-

(Працяг на стар. 5)



# Заклік да розуму ў сенаце ЗША

«Нашы дзеянні ў Паўднёвым В'етнаме зганьбілі вобраз Амерыкі перад усім светам», — заявіў сенатар-дэмакрат Эрнес Грунінг. Выступаючы ў сенаце з асуджэннем амерыканскай палітыкі ў Паўднёва-Усходняй Азіі, Грунінг напомніў, што яшчэ роўна год назад ён упершыню звярнуўся да сената з патрабаваннем спыніць ваеннае ўмяшанне ЗША ў справы Паўднёвага В'етнама. За мінулыя 12 месяцаў, сказаў ён, ЗША, патраціўшы яшчэ 450 мільёнаў долараў на паўднёва-в'етнамскую вайну, аказаліся яшчэ ў больш цяжкім становішчы. Гэта былі, працягваў сенатар, змрочныя месяцы, на працягу якіх «у Паўднёвым В'етнаме ўзрастала колькасць нашых так званых ваенных саветнікаў..., якія змагаліся на пярэдніх лініях разам з сайгонскімі салдатамі».

Грунінг выказаў глыбокую трывогу з выпадку расшырэння Пентагонам вайны, асудзіўшы «бяссэнсавую бамбёжку Паўночнага В'етнама» амерыканскай авіяцыяй, якая «толькі палохае і адчужае сяброў і саюзнікаў ЗША». «Надышоў час, падкрэсліў ён, — спыніць бескарысныя і бяссэнсавыя страты амерыканскіх жыццяў у гэтым раёне, які не мае важнага значэння для бяспекі Злучаных Штатаў».

Затым слова ўзяў сенатар-дэмакрат Уэйн Морзе. «Прытворства, што мы дапамагаем народу Паўднёвага В'етнама, — сказаў ён, — цяпер адкінута. З гэтага часу вайна будзе весціся амерыканцамі, дзеля амерыканскіх мэт і пад амерыканскім камандваннем. Зусім відавочна, што ніякім унутраным палітычным сілам унутры Паўднёвага В'етнама не будзе дазволена прыйсці да ўлады без амерыканскага адабрэння. І іменна стратэгічныя інтарэсы ЗША... будуць вызначаць ход вайны».

Морзе назваў сумным фактам тое, што ЗША «сталі найвялікшай пагрозай міру ва ўсім свеце». Ён падкрэсліў, што калі ўрад ЗША будзе працягваць расшырэнне вайны ў В'етнаме, то гэта можа прывесці ў канчатковым выніку да ўсеагульнай вайны і катастрофы для ўсяго чалавецтв.

«Я, — заявіў сенатар, — адхіляю палітыку прэзідэнта ў Азіі таму, што гэта палітыка, як дакажа гісторыя, не можа адпавядаць інтарэсам ЗША або міру ва ўсім свеце». Ён падкрэсліў, што няма ніякіх апраўданняў для правядзення Злучанымі Штатамі «шакіруючага агрэсіўнага курсу дзеянняў у Азіі»

Нягледзячы на крытыку з боку «некаторых супер-патрыётаў.., нягледзячы на папрокі і вымовы прэзідэнта тым, хто працягвае публічна абмяркоўваць гэта пытанне, — падкрэсліў сенатар Морзе, — буду працягваць заклік да розуму, разважнасці і выкарыстання даступных працэдур для вырашэння канфлікту ў В'етнаме».

**НАМЕСНІК**




## Гурток актывізаваўся

Нядаўна ў клубе-кавярні ў Дубічах Царкоўных адбыўся сход моладзі, прысвечаны ацэнцы працы гуртка Беларускага таварыства. На гэты сход прыбыў член павятовага праўлення БГКТ з Гайнаўкі тав. Васіль Дзун, які расказаў аб дзейнасці і заданнях беларускай арганізацыі. Сход выбраў новае праўленне гуртка і прыняў у члены 14 асоб. Усе члены БГКТ забавязаліся да 1-га красавіка аплаціць за цэлы год складчыны. Сакратар гуртка БГКТ Іван Блізнюк і светліцовая — Вера Леўчук забавязаліся сарганізаваць аматарскі калектыў.

Мікола Панфілюк

## У гонар жанчын

6-га сакавіка Беларускае таварыства супольна з Рускім таварыствам у Беластоку сарганізавалі вечарыну прысвечаную Міжнароднаму дню жанчын. З гэтай нагоды з дакладам выступіў сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк. Пасля мастацкай часткі, на якую зложыліся: выступленні дзяцей-акардэаністаў, самадзейнікаў Рускага таварыства, сёстраў Міньковых і салісткі эстрады «Лявоніха» Любы Томчык, адбылася танцавальная вечарына.

На здымку: Выступаюць самадзейнікі Рускага таварыства. (мх)

## Першыя крокі

Намаганнямі Бельскага аддзела БГКТ і пры дапамозе мясцовых улад арганізаваўся ў Бельску харавы калектыў. Мастацкім кіраўніком яго з'яўляецца настаўнік педагагічнага ліцэя Мікола Лукашук. Харысты два разы ў тыдзень збіраюцца ў ратушы — памяшканні гарадской рады парадовай на рэпетыцыі. Члены гэтага хора замужнія і жанатыя людзі, якія па-сапраўднаму любяць музыку, песню, любяць спяваць. Налічваецца іх больш 20 асоб. Хор зрабіў ужо першыя, найцяжэйшыя крокі. Рэпетыцыі паказваюць, што гэта будзе добры хор, чаго яму ад усяго сэрца жадаем.

На здымку рэпетыцыя хору.

Тэкст і фота м.х.



## Супрацоўніцтва

Сапраўды карыснае і цікавае супрацоўніцтва навязалася паміж гуртком ЗМС Прадпрыемства сухой дыстыляцыі ў Гайнаўцы, а гуртком ЗМВ у Чыжах. 11 лютага гэтага года члены ЗМС запрасілі членаў ЗМВ да сябе ў госці. Сустрэча адбылася пры чорнай каве, прыемнай музыцы і выступленнях эстрады «Энтузіястаў». 28 лютага падобная сустрэча адбылася ў Чыжах, дзе члены ЗМВ прымалі сваіх гасцей таксама чорнай кавай і выступленнямі свайго гуртка, які даў пастаноўку п'есы «Мікітаў лапаць». Працай мастацкага гуртка кіруе тут настаўнік школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі — Станіслаў Касцюк. (п)

## З усім народам

(Працяг са стар. 1)

як лепш мабілізаваць насельніцтва да выканання задач пастаўленых партыяй? Гэтыя ўсе справы будзе абмяркоўваць пленарнае пасяджэнне Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое адбудзецца 21 сакавіка.

**М. Хмялеўскі**

Наша акцыя

## Кніжкі для Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку

Падарунак **Яна Грыгаровіча** з вёскі Бендзюга, Беластоцкі павет:

Уладзімір Калеснік — «Час і песні»; «Роль пионерской организации в коммунистическом воспитании подростающего поколения»; «Из опыта физического воспитания в школах БССР»; «Калгаснае будаўніцтва ў беларускай мастацкай літаратуры»; Я. Купала — «Выбраныя творы»; «Гісторыя БССР» том І і ІІ; Я Купала — «Драматычныя творы»; Р. Шкраба — «Сіла слова»; С. Грабчыкаў — «Слова аб роднай прыродзе».



# ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

**(ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА).**

Складаным і нялёгкім шляхам ішло развіццё літаратуры беларускага народа.

Пасля Георгія Скарыны, Васіля Цяпінскага і Сымона Буднага — слаўных беларускіх асветнікаў XVI стагоддзя, з імёнамі якіх звязаны пачатак айчыннага кнігадрукавання і фармаванне перадавых грамадскіх ідэй, у гісторыі Беларусі надоўга наступае перыяд упадку нацыянальнай культуры. Але ў суровых выпрабаваннях і цяжкай барацьбе супраць чужаземных захопнікаў беларускі народ захаваў свой нацыянальны воблік, сваю мову і звычаі, стварыў яркі і самабытны фальклор. А ў пачатку XIX стагоддзя паявіліся першыя творы беларускай літаратуры на новай аснове — жывой мове і шырокім выкарыстанні багаццяў вуснай народнай творчасці: ананімныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», творы П. Бахрыма і В. Дуніна-Марцінкевіча, газета «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага.

Самай жа выдатнай фігурай у беларускай літаратуры XIX стагоддзя па праву з'яўляецца выдатны паэт-дэмакрат і палымяны патрыёт Францішак Багушэвіч (1840—1900). Цесная сувязь з агульнапалітычнымі праблемамі свайго часу, адважны пратэст супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, патрыятычныя ідэі, рэалістычнае ўяўленне жыцця і быту беларускай вёскі, яркі вобраз простага чалавека — селяніна, — вось характэрныя рысы паэзіі аўтара «Дудкі беларускай». Значны ўклад унёс Ф. Багушэвіч у беларускую прозу, апублікаваў ён таксама цікавыя публіцыстычныя матэрыялы.

Нарадзіўся Францішак-Бенедыкт Багушэвіч 21 сакавіка 1840 года ў вёсцы Свіраны, Віленскай губерні, але дзіцячыя гады прайшлі ў вёсцы Кушляны суседняга Ашмянскага павета. Пасля заканчэння Віленскай гімназіі, ён у 1861 годзе паступіў у Пецярбургскі універсітэт, але ў сувязі са студэнцкімі хваляваннямі быў з яго выключаны. Ф. Багушэвіч вярнуўся на радзіму і працаваў сялянскім настаўнікам, а калі выбухла паўстанне 1863 года ён са зброяю ў руках пайшоў у Аўгустоўскія лясы, дзе ў сутычцы з царскімі войскамі быў ранены. Суровыя рэпрэсіі супраць удзельнікаў паўстання 1863 года прымусілі яго шукаць прыстанішча на Украіне, дзе ён спачатку вучыўся ў Нежынскім юрыдычным ліцэі, а потым доўгі час працаваў судовым следчым. Вярнуўся Ф. Багушэвіч у родныя мясціны толькі ў 1884 годзе, працаваў прысяжным паверанным Віленскага акруговага суда і быў вядомы ў сялянскім асяроддзі як «мужыцкі» адвакат.

Літаратурную дзейнасць Ф. Багушэвіч пачаў яшчэ ў бытнасць на Украіне, аднак значна пазней пры садзейнічанні вядомых польскіх дзеячоў — пісьменніцы Алаізы Ажэшка і філолага Я. Карловіча яму ўдалося выдаць за граніцай паэтычныя зборнікі «Дудка беларуская» пад псеўданімам Мацей Бурачок (Кракаў, 1891 і 1896). «Смык беларускі» пад псеўданімам Сымон Рэўка

# КЛОПАТЫ ЧЫЖОЎСКІХ ПАЖАРНІКАЎ

Чыжоўскія пажарнікі пачалі быць пажарнікамі 17 год таму назад — у 1948 годзе. Чыжы — вёска вялікая, налічвае каля 200 дамоў, прытым забудаваная цесна, і пажары тут, асабліва летам, здараюцца даволі часта. Таму менавіта жыхары Чыжоў яшчэ ў 1948 годзе пастанавілі сарганізаваць у сябе пажарную каманду.

Пачаткі, як усе пачаткі, былі даволі скромныя. Пажарнікі склалі небагатыя свае прылады ў гумне аднаго дзядзькі, а самі пачалі вучыцца пажарнага майстэрства.

Дзякуючы ахвярнай працы пажарнікаў і ўсёй вёскі ў 1955 годзе паўстае першая большая інвестыцыя чыжоўскіх пажарнікаў — пажарніцкае дэпо (раміза) пабудаванае поўнасцю грамадскім чынам.

Каб гасіць, аднак, пажар патрэбна перад усім вада. А ў Чыжах з вадою сапраўды бяда. Няма тут аніякай рэчкі, ні сажалкі, адны калодзежы, але і ў тых улетку вады толькі тое, каб напіцца. Пажарнікі пастанавілі пабудаваць басейны на ваду. І пабудавалі. Аж 5 штук у розных месцах вёскі і ўсе грамадскім чынам. Праца чыжоўскай «стражы» была ўласціва аценена павятовай камандай пажарнікаў у Гайнаўцы. Многія з чыжоўскіх пажарнікаў атрымалі розныя адзнакі, а ў 1959 годзе чыжоўская каманда атрымлівае пажарніцкі самаход.

— Нават такая Белавежа не мае свайго самахода — гавораць з гонарам чыжоўскія пажарнікі, — а мы маем.

Калі развязалася існуючая тут раней спулдзельня прадукцыйная, пажарнікі пераянялі адзін з будынкаў гэтай спулдзельні і перабудавалі яго сабе на дэпо. Каштавала гэта ізноў множства працы грамадскім чынам, але затое зараз у Чыжах прасторнае і выгаднае пажарніцкае дэпо. Старое дэпо пажарнікі прадалі, а за здабытыя такім чынам грошы закупілі членам каманды пажарніцкую вопратку.

Здавалася б, што ў чыжоўскіх пажарнікаў усё ідзе як па масле, каб... Вось менавіта гэтае «каб». Бо чыжоўскія пажарнікі надалей не маюць чым гасіць пажараў. З пабудаваных імі 5 басейнаў засталося толькі 2, ды і тыя мабыць будуць зліквідаваны. Два басейны загінулі ў час меліярацыйных прац, а адзін быў зліквідаваны пры пашырэнні чыжоўскай вуліцы ў сувязі з пабудовай дарогі: Гайнаўка—Чыжы—Кленікі. Пажарнікам было страшэнна шкада глядзець, як магутная машына нішчыла плён іх мазольнай працы, спіхаючы з вуліцы зямлю ў іх басейн.

— Дайце нам на адзін дзень бульдозера (спыхач), мы пабудуем сабе новы басейн, — прасілі пажарнікі ў Гаўнаўскага дарожнага аддзела ПРН. Пажарнікі цвердзяць, што маглі проста запатрабаваць, каб дарожны аддзел на месца заваленага басейна пабудаваў новы. Але яны. пажарнікі проста прасілі. І дарожны аддзел дабрадушна адпавядаў: зробім, зробім. Пажарнікі кажуць, што хапіла б 8 гадзін працы бульдозера, каб пабудаваць за вёскаю басейн, у якім не толькі была б усё лета вада для пажарнікаў, але магла б і купацца ўся вёска. Прайшло лета, восень, наступіла зіма і... бульдозер ад'ехаў у Гайнаўку. Ці вернецца? Пажарнікі просяць, каб вярнуўся і выканаў абяцанне дарожнага аддзела. Мы прыключаемся да гэтай просьбы.

У канцы лета ўспыхнуў у вёсцы пажар. Загарэлася гумно ў Яна Шугалы. Пажарнікі пранялісія ратаваць. Ды чым тут ратаваць, калі няма вады. Пажарнікі адкрылі ля сядзібы МО яму, у якую зліваліся бруды і пачалі гасіць пажар гэтымі брудамі.

— Потым нельга было прайсці ля гэтага месца. такі быў смурод, — гавораць у Чыжах.

— Нават тое, што засталося недапаленым, перамяшалася з брудам і было не да выкарыстання.

Бельская рашарня наладзіла ў Чыжах пункт скупу ільну. Прывозяць яго сюды сяляне амаль з усяго Гайнаўскага павета. У забудаваннях былой чыжоўскай спулдзельні прадукцыйнай перахоўваецца ўвесь час тысячы тон гэтага лёгка запальваючагася багацця.

— Страх падумаць, — гаворыць мой субяседнік, Кузьма Сахарчук, — што было б, каб на няшчасце ўспыхнуў там пажар. Кругом ні кроплі вады няма!

А можа б так Бельская Рашарня дапамагла чыжоўскім пажарнікам развязаць іх клопаты і пабудаваць там даволі вялікі басейн? Была б тады значна больш бяспечнай маёмасць Рашарні і ўсяе вёскі.

**УЛ. ПАЎЛЮЧУК**

# БІБЛІЯТЭКАРША ТАМАРА



Зімой, калі на палях і па дарогах разгульвае разбойніца — мяцеліца, седзячы ў цёплай хаце, карысна заняцца нейкай кніжкай.

У Храбалах, што пад Бельскам, гэтакую магчымасць стварае Грамадская бібліятэка. На яе паліцах знаходзіцца звыш 5-ці тысяч тамоў. Можна тады падабраць тут кожнаму чытачу штосьці паводле яго густу. Храбалоўская бібліятэка пад сваёй апекай мае 5 вясковых бібліятэчных пунктаў.

— Ці часта жыхары Храбалоў наведваюць бібліятэку? — пытаю Тамару Дамброўскую, якая загадвае Грамадскай бібліятэкай у Храбалах.

— Пасля новага года пазычыла я сваім чытачам каля 450 кніжак. Прыходзяць у бібліятэку не толькі жыхары Храбалоў, але таксама сяляне з іншых навакольных вёсак.

— Якія кніжкі найчасцей пазычаюць у вас чытачы?

— Найбольш чытачоў патрабуе кніжак пра вайну, пра нейкія незвычайныя прыгоды, пра рамантычнае каханне.

Тамара Дамброўская ўжо трэці год кіруе грамадскай бібліятэкай у Храбалах. Пачала працаваць у жніўні 1962 года, зараз пасля заканчэння Бельскага беларускага ліцэя. Засталася ў роднай вёсцы.

На здымку: Тамара Дамброўская.

**Гутарыў В. Р.**
Фота: аўтара

## Парады

Здыманне накіпу ў чайніках і самаварах. Накіп з'яўляецца наслаеннем солей, якія змяшчаюцца ў вадзе і адкладаюцца пры кіпенні. Каб зняць накіп, трэба прыгатаваць кашку з пітной соды і халоднай вады, уцёрці ў паверхню накіпу, затым змачыць моцным воцатам. Сода, злучаючыся з воцатам, разбурае накіп. Пасля такой апрацоўкі рыхлы накіп, які слаба трымаецца, без асаблівай цяжкасці здымаюць драўлянай палачкай. Пры тоўстых, вельмі шчыльных наслаеннях накіпу гэтую аперацыю паўтараюць.

# РАШАРНІ

Шафёр Яблонскі выкруціў нагу на абледзянелым пляцы, доўга хварэў у хаце. Трэба было аж такога няшчаснага выпадку, каб БГП-овец Станіслаў Гантарчук нарэшце дадумаўся выдаць загад пасыпаць пяском галалёдны пляц. А што будзе, калі хто зваліцца з недарэчнай, паламанай напалавіну драбіны ў аўгустоўскай базе? Не паспеў я задаць такое пытанне наконт драбіны, як ужо зваліўся з яе Аляксандр Маковіч. Цяжка зваліўся, ляжыць у бальніцы.

Гэтыя здарэнні і з'явы перашкаджаюць у канцэнтрацыі працоўных намаганняў, перашкаджаюць добрай стабілізацыі прадукцыі. Патрэбна рашучым чынам зжыць гэтыя шкодныя праявы нядбайнасці, зжыць дарэшты. Таму партыйная арганізацыя, прафсаюзная арганізацыя, рабочая рада намячаюць далейшыя вялікія заданні ў галіне арганізацыйна-выхаваўчай працы.

Час не затрымоўваецца на месцы, трэба датрымаць яму кроку. Неабходна заняцца развіццём рацыяналізатарскага руху, у Рашарні слушна бачаць у ім сур'ёзны рэзерв для павелічэння і пастаяннага росту прадукцыйнасці працы. Гэта яшчэ адна, цалкам занядбаная дагэтуль справа, якую падымаюць і ставяць на ногі. Прытым, не забываюць аб будучыні, аб перспектывах. Зрэшты, адно з другім вяжацца. Чакае, напрыклад, свайго вырашэння праблема шырокай механізацыі транспарту, выкарыстання пнеўматычнай тэхнікі пры пагрузцы і разгрузцы ільняной саломы. Цяпер пагрузка адбываецца ручным спосабам — вазамі, коньмі. Прадбачана выкананне надбудоў над адкрытымі басейнамі, якія цяпер замярзаюць і не даюць поўнай карысці. Такім чынам, будзе магчымым павысіць прадукцыю на 33% больш і цалкам ліквідаваць зімовыя звальненні малакваліфікаваных рабочых. Усе будуць мець працу круглы год.

Плануецца мадэрнізацыя машыннага парку, будова дасканалай базы ў вёсцы Аўгустова і інш.

Немалаважным дасягненнем з'яўляецца абарона перад вярхоўнымі ўладамі сэнсу і патрэбы існавання аддзела Рашарні ў Лукаве, у чым заслуга партарганізацыі і рабочага актыву. У бягучым годзе лукаўскі аддзел атрымае некалькі новых машын, павялічыцца яго прадукцыя, узрасце лічба рабочых. Па-праўдзе кажучы, дагэтуль лукаўскі аддзел існаваў толькі таму, каб даць працу мясцовым людзям. Цяпер дасць ён не толькі працу але і даход, такі даход , які апраўдае яго існаванне ў сэнсе эканамічнага рахунку.

Як бачым, дасягненні ёсць, але не ўсё яшчэ зроблена або робіцца так, як трэба. Рабочы калектыў і дырэкцыю чакаюць нялёгкія справы і заданні.

**КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ**



# Кніжка кажа праўду

(Працяг са стар. 1)

ваў «Загубленая шыфроўка». Гэта сенсацыйная гісторыя аб дзейнасці германскай вайсковай разведкі «Абвер» на Беласточчыне да 1939 года. Дакументальныя кнігі раблю аб дзейнасці Гестапа на Беласточчыне ў час вайны — «Аддзел IV—N» і аб пацыфікацыі беластоцкіх вёсак «З дымам пажараў».

— Тэма вашых кніг, асабліва дакументаў, аж надта актуальная.

— Свой скромны голас і вымову дакументальных кніг я лічу як пратэст супраць палітыкі рэваншу, супраць перадаўненню гітлераўскіх злачынстваў. Кожнае злачынства павінна быць пакарана. А мы ведаем, што 50 асоб ваенных злачынцаў з Беласточчыны знайшлі прытулак у ГФР. Вернер Фром, які вінаваты ў расстралянні і спаленні Райска жыве ў Бон, дастае дзяржаўную пенсію за заслугі. Герберт Цымерман, які расстраляў і спаліў Папоўку, растрэльваў і вешаў у Белавежы, жыве ў Беляфільдзе і з'яўляецца адвакатам. Сам сплямлены людской крывёй бароніць іншых. А мы не забудзем іх злачынстваў.

Дзічкоўскі, якому нож гільяціны адрэзаў галаву ў Кенігсбергу (з кнігі «Лісты з-пад гільяціны» — ВЛ). перад смерцю загадаў, каб хто пераўжыве, не пераставў гаварыць праўды, не перастаў выкрываць вінаватых. Я стараюся гэта рабіць маімі кніжкамі.

Размову вяла **ВЕРА ЛЕЎЧУК**

 

# Вісла як НЁМАН

**РАЗМОВА З ВЯДОМЫМ САЛІСТАМ БЛАКІТНА-ЧОРНЫХ — ЧЭСЛАВАМ НЁМАНАМ**

Размова адбываецца на дзесятым паверсе аднаго з варшаўскіх дамоў. За акном танцуюць белыя пушынкі снегу — Варшава купаецца ў пушыстай белі і агнях. Унізе плыве Вісла, у начной цішыні спяць бульвары і варшаўскія масты Вісла будзіць успаміны з-над далёкага Нёмана і Чэслаў Нёман апавядае:

— Калі заспяваю сабе нейкую добра вядомую мне з дзіцячых гадоў беларускую, літоўскую ці рускую песню — часта губляю пачатковую, арыгінальную аснову песні і выходзіць нешта быццам бы зусім іншае, але на гэтай жа народнай падставе. У песнях маіх гучыць рэха беларускай вёскі, дзяўчат з граблямі вяртаючыхся са спевам дадому. У маіх песнях — сум і туга роднай маёй навагрудскай зямлі.

— Ці менавіта таму вашыя песні так непаўторна поўныя настрою?

— Думаю, што так. У маіх родных Васілішках на пытанне: хто ты? паляк? беларус? рускі? адказваецца — я тутэйшы. Тут нейкая шырокая, агульнаславянская атмасфера, і яна накідае мне характар таго, што я кампаную.

Можа аднак захацелі б вы крыху больш расказаць аб сваёй спявачай кар'еры?

— Калі я меў 9 гадоў, прадказвалі мне вялікую спявачую кар'еру. Праўдападобна меў я тады прыгожы, чысты голас. Потым перайшоў цяжкую хваробу горла, пасля якой страціў свой голас. Вучыўся я ў Гданьскай музычнай школе на інструментальным аддзеле; іграў на «фагоце», нетыповым інструменце са спецыфічнай каларыстыкай. У 1961 годзе пачаў спяваць у студэнцкім кабарэце «Гэта-тут», а ад 1962 года спяваю ў эстрадзе Блакітна-Чорных. Мой дэфект горла аказаўся карысным. Цяпер для песні патрэбна душа і інтэрпрэтацыя. Прыклад: Амстронг і Рэй Чарлес.

— А ваша кар'ера як аўтара песні?

— Сваю першую песню стварыў я ў 1963 годзе і выканаў на фестывалі ў Сопаце. Не спадзяваючыся вялікіх паводзін у публікі спяваў гэтую песню ў час сваіх выступленняў і быў у пэўнай меры нават здзіўлены, калі, у час выступленняў гэтых, песня мая спадабалася не толькі моладзі, але і старэйшым. Была гэта песня: «Ведаю, не вернешся». Яе выкананне дазволіла мне выехаць у Францыю, дзе выступаў я ў парыжскай Алімпіі.



Чэслаў Нёман спявае.

## Czas jak rzeka

Muz... i słowa: Czesław Niemen

Gdzie modra rzeka niesie wody swe —
tam słońca blask ujrzałem pierwszy raz.
Nad brzegiem jej spędziłem tyle chwil,
że dziś, bez rzeki, smutno mi.
Tam każdy dzień — to skarb,
dziś mój jedyny skarb —
Choć czas, jak rzeka, płynie,
unosząc w przeszłość tamte dni. (bis)

Do dni dzieciństwa wraca moja myśl,
w marzeniach moich żyje rzeka ta —
Tak bardzo chciałbym być nad brzegiem jej.
więc niech wspomnienie dalej trwa,
Tam każdy dzień — to skarb,
dziś mój jedyny skarb —
Choć czas, jak rzeka, jak rzeka płynie,,
unosząc w przeszłość tamte dni. (bis)

— Можа аднак расказалі б вы нам крыху больш аб сваёй працы як аўтара песень?

— Да пісання тэкстаў песень прымушае мяне неабходнасць. Маю, напрыклад, добрую музычную тэму і хацеў бы зараз жа яе заспяваць. Не магу чакаць, пакуль нехта напіша мне тэкст — пішу сам. Думаю, што да напісання тэкстаў простых маладзёжных песень не трэба быць паэтам, хопіць добры рамеснік, які ведае сваё рамясло і зможа скласці словы так, каб можна было іх заспяваць. Словы тут павінны быць падпарадкаваныя музыцы, а не наадварот.

— Ці ваша песня, гэта стыль рытм энд блюс (даслоўна: рытм і сум — адзін са стыляў джазавай музыкі — п)?

— Стыль рытм энд блюс захапляе мяне, гэта не азначае, аднак, што мая песня — простае перайманне гэтага стылю. Знаходжуся ў пастаянных пошуках. Крыніцай маіх пошукаў з'яўляецца фальклор, на гэтай аснове ствараю свае песні. Усе дасканала ведаем, што славянскія народныя музычныя тэмы не горшыя ад тэм іншых народаў. Вядомы польскі кампазітар Шапэн амаль усю сваю творчасць пачарпнуў з народных матываў. Зараз у кругу народнай інспірацыі сустракаем штораз больш музыкаў ва ўсім свеце. У сваім скромным маштабе раблю гэта ж самае.

— Што вы маглі б сказаць аб вашых кантактах з публікаю?

— Цешуся, што маю многа сяброў сярод моладзі і надзвычай люблю выступаць перад маладзёжнай публікай. На канцэртах стараюся выконваць свае песні як найбольш шчыра. Цешуся, калі бачу на тварах людзей сімпатыю. Перажываю тады вялікае хваляванне і адчуваю надзвычайную прыемнасць. Заўважаю пры тым, што песні мае больш падабаюцца простым людзям, прафанам у музыцы. Думаю, што прычына ў падсвядомасці людзей, якія інстынктоўна адчуваюць народныя вытокі маёй песні.

— А як паўстаў ваш псеўданім: Нёман.

— Было гэта ў 1963 годзе ў сувязі з маім выездам да парыскай Алімпіі. Кампанаваў я тады якраз песню: «Час, як рака», калі прышла мне на думку рака, з якою вяжуцца ўспаміны майго дзяцінства — Нёман. Вольныя хвіліны свайго дзіцячага жыцця я праводзіў над гэтай ракою. Да сёння ў памяці маёй жывыя цудоўныя нёманскія краявіды і яны насунулі мне думку прыняць прозвішча, якое звязана з маім паходжаннем, з месцам майго нараджэння і дзяцінства. А адначасова прозвішча гэта цесна звязана з характарам і атмасферай маёй песні.

Апрацаваў — п








Тры дні і тры ночы Дзяменцяў аглядаў кожны карабль, які ставіўся пад пагрузку, прысутнічаў пры яго адплыцці і неадкладна радзіраваў аб гэтай новай цэлі для нашай авіяцыі. І гэтыя караблі ў порт назначэння не прыбывалі. Савецкія бамбардзіроўшчыкі, тарпеданосцы быстра знаходзілі іх у адкрытым моры і з'яўляліся на іх курсе так дакладна, што гітлераўскае камандванне не магло не падумаць аб тым, што савецкая авіяцыя атрымлівае дакладныя справаздачы аб выхадзе кожнага карабля.

Дзяменцяў чакаў, што гітлераўцаў асяніць такая здагадка, але ніякіх контрмер супраць гэтага ён зрабіць не мог. Ён мог толькі спадзявацца, як і раней, што ў паніцы эвакуацыі гітлераўцы пеленгацыю радыёстанцыі ўжо не робяць.

Глыбокай ноччу пад пагрузку стаў італьянскі транспарт «Венецыя». Палкоўнік Кунгель быў вельмі знерваваны. Дзяменцяў не ведаў, што здарылася тут.

А здарылася вось што... Як толькі «Венецыя» прышвартавалася, Кунгель падняўся на капітанскі мосцік. У гэты час да карабля пад'ехалі тры грузавікі са скрынямі. Салдаты, якія прыбылі на грузавіках, неадкладна пачалі зносіць скрыні на палубу. Калі даламі

52

жылі аб гэтым Кунгелю, ён спусціўся па трапу на прычал.

Пагрузка скрынь працягвалася. Кунгель падыйшоў да салдат.

— Спыніць пагрузку! — крыкнуў ён, і тут жа перад ім вырас афіцэр у скураным паліто. — З кім маю гонар? — спытаў Кунгель.

— Брандт! Гестапа! А хто вы?

— Палкоўнік Кунгель. Я адказваю за пагрузку.

— Цудоўна! — Голас Брандта гучаў насмешліва. — Гэта значыць, што вы адказны за пагрузку гэтых скрынь сакрэтнага грузу. Вам усё ясна?

Палкоўнік Кунгель маўчаў. Яшчэ ўчора ён выкінуў бы гэтыя скрыні і гэтага гестапаўца. Загад, якому падпарадкоўваўся і які выконваў Кунгель, гаварыў толькі аб эвакуацыі войск... Але сёння вечарам, знаходзячыся ў штабе, Кунгель меў вельмі непрыемную гутарку са сваім непасрэдным начальнікам палкоўнікам Штраўхам аб патапленні караблей рускай авіяцыяй.

— У вас ніякіх падазрэнняў няма? — настойліва пытаў Штраўх.

— Не, я гружу войска, і ўсё.

— Шкада. Той, хто паведамляе рускіх, павінен знаходзіцца на аператыўным прычале, побач з вамі. У яго дадзеныя надта дакладныя. Берлін лютуе, і ў нас з вамі могуць быць вялікія непрыемнасці.

Вось чаму палкоўнік Кунгель цяпер маўчаў.

— Я звяжуся са штабам, — сказаў Кунгель.

— Рабіце што хочаце, але не перашкаджайце мне выконваць загад райхміністра Гімлера!

Кунгель пайшоў да тэлефона. Брандт загадаў салдатам працягваць пагрузку скрынь. Пара была позняя — Кунгель ледзь дазваніўся да кватэры палкоўніка Штраўха. Выслухаўшы данясенне Кунгеля аб самаволі гестапаўца, Штраўх доўга маўчаў.

53

— Вырашайце самі, зыходзячы з абставін, — урэшце сказаў ён і павесіў трубку.

Кунгель вярнуўся на прычал, і якраз у гэты час да яго падышоў Дзяменцяў. Брандт быў на караблі.

— Што гэта за пагрузка? — спытаў Дзяменцяў Кунгеля.

— Гестапа, — коратка сказаў палкоўнік і адыйшоў убок.

У цемры Дзяменцяў не мог разгледзець надпісаў на скрынях, а якраз гэтыя надпісы былі яму знаёмы і маглі папярэдзіць яго, што недзе блізка знаходзіцца Брандт.

Дзяменцяў па трапу ўбег на «Венецыю» і пачаў ужо прывычны агляд судна. Выбраўшыся з галоўнага трума, ён ішоў па вузкім цёмным калідоры, уздоўж матроскіх кают.

Наперадзе пачуліся крокі: нехта ішоў насустрач Дзяменцяву. Невытлумачальнае чуццё папярэдзіла Дзяменцява: наперадзе небяспека! Ён прыціснуўся ў куток каля дзвярэй. Па калідоры ішоў Брандт. Яшчэ дзесяць-пятнаццаць крокаў — і ён убачыць Дзяменцява.

Брандт усё бліжэй і бліжэй... Вось ён ужо падняў нагу, каб пераступіць цераз высокі парог. Ён бачыць Дзяменцява... Але наўрад ці ён паспявае зразумець, што дзеецца.

Дзяменцяў прыставіў яму пісталет да грудзей і выстраліў.

Брандт паваліўся на Дзяменцява. Падхапіўшы цела гестапаўца, ён узваліў яго на плечы, паднёс да дзвярэй, якія вялі ў трум і кінуў у чорную яму. Потым вярнуўся ў калідор, упэўніся, што ніхто здарэння не бачыў, і хутка спусціўся ў трум. Ён запхнуў цела Брандта пад дошкі і заваліў яго бочкамі.

54



 




## РАНЕЙ ПРЫБЕГЛА

У царскай арміі салдат кармілі пераважна прасяной кашай. Яна так набрыдла, што ўжо і глядзець на яе не хацелася.

Ды вось салдат, адслужыўшы свой тэрмін, вярнуўся дадому. Калі ён увайшоў у хату і прывітаўся з роднымі ды памыўся, маці хутка паставіла міску прасяной кашы на стол. Салдат паглядзеў на яе, пачухаў патыліцу і горка сказаў:

— І калі яна паспела раней мяне прыбегчы дадому?





Устаяў...

## ЗАМЯНІЛА

Папрасіў я прадаўшчыцу
Адпусціць мне хрэн з гарчыцай
А яна мне так сказала, —
Без гарчыцы горка стала.

**І. Юра**

# РАГАТАЯ ДУША

—Тттррр, Буланы! — выкрыкнуў кавалер, саскочыўшы з трактара.

— З перапою называеш трактара Буланым?' — спытаў насмешліва вагавы.

— Кланяюся начальніку, не пытаю пра здароўе, бо і так відаць зацменне розуму на сто два, — задорна сказаў трактарыст.

— Насмактаўся бы губка вады і мелеш языком, — з крыўдаю ў голасе адказаў вагавы.

Горла маё сухое як бот у сонечны дзень. На Буланым прыехаў, бы ў той песні: Гэй, вы коні сталёвыя... У мяне конь жалезны, а ў цябе галава.

— Сукін ты сын... — прашыпеў вагавы.

— За праўду не пакрыўджуся. Мая маці была батрачкаю ў твайго таткі, значыць, мы пабратымы.

Вагавы закіпеў:

— П'яным не выдаю тавару, заварочвай машыну.

— Бач ты, якое ў цябе вока-сарокае, паглядзеў і распазнаў, а я цвярозы як мула на мінарэце і добра бачу, хто перада мною, баран ці кабан!?

— Вон, пайшоў вон! — зароў вагавы.

На тую хвіліну з'явіўся член праўлення ГС-у і спытаў, што за крык?

— Крычыць вагавы, а я прыехаў забраць зайчыну смерць.

— Чаго забраць? — не зразумеў член праўлення ГС-у.

— Хімічныя ўгнаенні, — вытлумачыў трактарыст. — Для раслін гэта дрожджы, а для зайцоў-трусоў каюк. Страх, колькі гіне зайкаў ад хіміі, а нашы зайцы — гэта дэвізы. Заграніцай кланяюцца нашаму зайцу. Для прыкладу, за вагавога не дадуць зломанага грашака, а за зайца дастанем долары.

— Што ж прапануеш?

— Мая справа кіраўніцаю круціць, а аб зайцах з любві гавару. Заяц не гаўкае, не кідаецца на людзей, як вагавы. Мая справа малая, дасце ўгнаенне — паеду, не дасце — таксама паеду.

— З прыемнасцю дамо. Хто заўчасна набывае ўгнаенні, той не прамахнуўся. Вясною нахлыне народ, тады мы ўсіх не абдзелім, склад малаваты, вось! Ставай пад пагрузку, — распарадзіўся член праўлення ГС-у і пайшоў у кантору.

Калі прычэпа была напоўнена, наш трактарыст-кавалер пайшоў у кантору аформіць дакументы. Варочаючыся назад выняў чвэртку гарэлкі і сказаў:

— Шпарнем сабе для весялосці, пі першым ды не забудзь пакінуць.

Калі вагавы нахлёбаўся, трактарыст узяў бутэльку з рэштай гарэлкі, заткнуў яе і засунуў у кішэню.

— Чаму не п'еш? — спытаў вагавы аблізваючы губы.

— Не можна, калі я ў дарозе. Зрэшты, зараз прыдзе прэзас праверыць, хто тут п'яны: вага ці вагавы?

Сказаўшы гэта, трактырыст запусціў матор, расселўся ў жалезным сядле і даў газу.

Вагавы перапалохаўся, спачатку хацеў пабегчы купіць мятных цукерак, потым падумаў, што добра будзе схавацца на падстрэшша, нібы зрабіць там парадак. Але тут-як-тут з'явіўся прэзас і ходзячы міма вагавы сказаў:

— Калі хто будзе да мяне, — я ў грамадскай радзе.

— Напалохаў мяне, халера, — падумаў з палёгкаю вагавы і вылаяўся:

— Рагатая душа, чортава маці!

— Гэта вы на мяне? — азірнуўся прэзас.

— Крый Божа! Пра трактарыста кажу, — пачаў апраўдвацца вагавы, але прэзас ужо вышаў за вароты.

*Дзядзька Лявон*

## ХЛУСНЯ

Жонка да мужа:

— Гаварылі мне, што ты здраджваеш мяне.

— Гэта хлусня!

— З высокай бландзінкай.

— Гэта падвойная хлусня!

## Псіхалагічны момант

— Кожная жанчына патрапіць трымаць тайну да пэўнага часу.

— Так, пакуль каго не сустрэне.




Прыніжэнне сваіх здольнасцей гэтак жа шкодна, як і завышэнне: магчы і не рабіць, рабіць і не магчы — адно і тое ж.

## У ЛЕКАРА

Да вядомага лекара прыходзіць сур'ёзна хворы наведвальнік. Сакратарка лекара гаворыць:

— Магу вам вызначыць візіт за 6 тыдняў.

— За 6 тыдняў?! Магу ўжо тады не жыць?

— Візіт заўсёды будзе можна адклікаць.

## Прыемнасць

Ён да яе ў часе опернага прадстаўлення:

— Неймаверна нервуе мяне гэты тэнар!

— Дык мо' выйдзем?

— Што ты! У трэцім акце яго заб'юць і ні за што я не адкажу сабе гэтай прыемнасці.

## Замкнёнае кола

Суддзя да абвінавачанага:

— Ці прызнаецеся да саўдзельніцтва ў крадзежы цыстэрны спірту?

— Так.

— Што вы зрабілі з гэтым спіртам?

— Прадалі.

— А што зрабілі з грашыма?

— Прапілі.

# УСЯЧЫНА



ЛІСІЦА-ХІТРЫЦА

## Ці хочаш быць вынаходцам?

(Бясплатныя курсы)

Занятак 1.

Выміце з пудэлка шэсць запалак і палажыце іх на стол такім чынам, каб кожны з іх шчыльна кранаўся ўсіх апошніх.

Памятайце! Перш чым прыступіць да вырашэння, уважліва вывучыце ўмовы задачы, не прыбаўляйце сваіх уласных умоў.

Адказ у наступным нумары.

## Кангрэс вядзьмарак

У адным з лясоў ля Хэмшыра (Англія) адбыўся міжнародны Кангрэс вядзьмарак. На кангрэс прыехала больш 1.200 прадстаўніц чорнай і белай магіі з розных краін свету. Арганізатарка кангрэсу, кіраўніца англійскіх вядзьмарак місіс Сібіл Лік прыбыла не на традыцыйнай мятле, а на сучасным верталёце.




Мужчына лепш за жанчыну філасофствуе аб сэрцы чалавечым, але жанчына лепш за яго чытае ў сэрцы мужчыны.

**Жан Жак Русо**

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

По просьбе Данусі Грыка з Гайнаўскага павета змяшчаем беларускую песню пад загалоўкам

## БУЛЬБА

Сеем бульбу на загонах,
Каб расла яна спарней.
Будзе бульбы, будзе многа
Для сябе і для людзей.

І на полі, як на дзіва,
Разраслася на віду,
Наша бульба урадзіла —
Пад кустамі па пуду.

З бульбы ў нас галушкі вараць,
Нашу бульбу ўсюды хваляць.
З бульбы клёцкі, з бульбы каша,
Расцвітае доля наша.

Смачна бульба з кілбасою,
Смачна бульба з агуркам,
Смачна бульба з саланінай,
Смачна бульба з селядцом.

Як паеў ты з маслам бульбы,
Йдзеш на працу, як на гульбы,
А з'ясі ты з бульбай скварку —
І работа пойдзе шпарка.

Жонка бульбы наварыла,
Напякла яшчэ й бліноў,
Пакаштуеш, пасмакуеш
Ды захочаш бульбы зноў.

Бульбу смачную палюбіш,
Лепей жонку прыгалубіш,
Пацалуеш ласкавей,
Каб была яна мілей.

З бульбы клёцкі, з бульбы каша,
З бульбы ўсё ідзе на лад.
Возяць бульбу, возяць нашу
У Маскву і Ленінград.

Не мінайце нашай хаты,
Прыязджайце вы да нас,
Пачастуем нашай бульбай,
Пачастуем, госці, вас.



— Зараз выляціць птушка.



— Каб не такія як я, мусеў бы ты, чалавеча, пашукаць сабе іншай працы...

Ніва

Adres redakcji Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony red. naczelny 25-85 centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, połrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualna należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-151 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje – Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bitk C-3